# Ідзе падпіска на «Народную Волю» на II квартал. Не спазніцеся!

Народная Воля

№№43–44
(3582–3583)

16 сакавіка 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛІІ



*Святлана КАЛІНКІНА*

# Выверты псіхікі

— Ведаеце, што падаражэў цукар?

— Ну і што? Добра! Будзем купляць менш цукру, тым больш што ў нашым узросце цукар шкодны.

— А ўсё астатняе? Бензін, да прыкладу?

— А што нам да бензіну? У мяне машыны няма.

— Дык і транспарт падаражэе, калі на бензін кошты ўзняліся.

— Мы — людзі савецкія. Нам, што ні зробіць урад, — усё добра.

Гэты дыялог журналіста з "правільнай" беларускай грамадзянкай выдала ў эфір Радыё Свабода. Паказальны дыялог. Прыкры.

Мы нешта змагаемся, абураемся, спасылаемся на сусветны вопыт, на тое, як жывуць у Еўропе, патрабуем, каб наша ўлада ставілася да беларусаў як да людзей... А побач ядуць, п'юць, нараджаюць дзяцей тыя, для каго ўсё, што ні робіць пастух, — добра.

Пенсіі знізіліся — ну што зробіш? Цэны выраслі — неяк выжывем. Мяса не дакупішся з-за завоблачных коштаў — дык і не трэба, бо ў вайну людзі гнілую бульбу елі і выжывалі...

І не так той цукар зараз падаражэў ці той бензін, каб крычаць "Караул!". Але калі пачынаеш разважаць, што ж гэта за людзі такія, з якімі што ні рабі — ім усё будзе добра, за ўсё будуць дзякаваць, то крычаць хочацца.

Дапусцім, ты стары чалавек і не ўжываеш цукар. Дык а дзеці твае, а ўнукі? Няўжо ні сваім малым, ні суседскай дзятве чалавек ніколі не купляе пячэнне якое ці цукерчыну? Бо падаражэў цукар — падаражэюць цукеркі, сокі, напоі, булкі, батоны, нават некаторыя лекі... Няўжо гэта можа быць незразумела?

Але вось бачыце, як...

Падаражэў бензін — дык і тое малако да магазіна давезці даражэй будзе. Іншымі словамі, з-за бензіну цэны на малако, хлеб, бульбу, моркву скокнуць уверх. Але жыве чалавек і два да двух прыбавіць не хоча. Яму так жыць прасцей, адшукаць сваё шчасце прасцей: я машыны не маю — дык добра, што паднялі цэны для тых, хто яе мае. І, галоўнае, прызнавацца ў такой пазіцыі ім не сорамна, яны не бачаць у ёй нічога ненармальнага альбо амаральнага.

І ўсё ж у дадзеным выпадку я нават не пра кошты хачу сказаць. Хаця гэта сапраўдны здзек з людзей, калі сёння прэзідэнт сустракаецца з кіраўніком свайго ўрада і гаворыць: "Рост цэн павінен быць расцягнуты ў часе і прывязаны да росту даходаў насельніцтва. Ёсць павышэнне заробкаў, пенсій, дапамог — тады мы можам у нейкай ступені нават не рухаць цэны, а падшліфаваць. І гэта паўпрацэнта — адзін працэнт, не болей". А праз нейкі дзень пасля такой заявы, без усялякіх даплат і павышэнняў пенсій ці дапамог, аб'яўляецца пра рост цэн на некаторыя тавары на 5—7 працэнтаў.

Дык навошта было выступаць? Навошта абяцаць? Навошта падманваць?

Але, з другога боку, зразумела, Лукашэнка гаварыў тым самым, хто нават і не здолее скумекаць, што іх падманулі.

Не кожны хоча думаць, і, больш за тое, не кожны можа думаць. Тут усё ясна, гэта не здзіўляе. Здзіўляе, абурае, а калі шчыра — то проста сорамна за гэта самае "Добра!".

Ну, не можа нармальны чалавек хваліць і дзякаваць, нават калі ў яго з кашалька грошы вымаюць. Можа маўчаць, можа цярпець. Але крычаць "Добра!", калі павысіліся цэны не на "чарніла" для алкаголікаў, а на цукеркі для дзяцей?! Гэта нейкі выверт псіхікі. Гэта ненармальнасць.

Толькі рабы за ўсё дзякавалі свайму гаспадару. І то выключна тыя, хто ўжо нарадзіўся рабом, хто не ведаў і не помніў, што такое быць свабодным чалавекам. І чые бацькі свабоды не помнілі.

Нават за Савецкі Саюз заступлюся. Няма чаго сюды прыплятаць савецкія часы і спасылацца на тое, што мы — "савецкія людзі". Ну, не дзякавалі савецкія людзі кампартыі, калі падчас будаўніцтва "шчаслівага заўтра" ўдары прыходзіліся па іхніх кашальках. Маўчалі, цярпелі, абураліся не публічна, а выключна на кухнях, але не дзякавалі.

"Па шматлікіх просьбах" у савецкія часы песні пра любоў да Леніна па радыё круцілі ды суботнікі прызначалі. А ў сённяшняй Беларусі "па просьбах працоўных" што толькі не робіцца! Вось у мінулым годзе прэс-служба Беларускай чыгункі паведаміла, што пасажыры самі папрасілі, каб быў падняты кошт білетаў на электрычках павышанай камфортнасці. Усе пасмяяліся, успрынялі гэтае паведамленне як не лепшы жарт, не самую разумную адгаворку. Але няма чаго смяяцца, бо сапраўды ёсць сярод нас такія людзі, менавіта наша сістэма здолела іх выкрышталізаваць.

Дзе яшчэ людзі гатовы падтрымаць рост цэн на бензін, бо самі машыны не маюць? Дзе яшчэ яны гатовы разарваць чалавека, які выйшаў з гістарычным сцягам сваёй краіны, бо самі ніколі ніякіх перакананняў не мелі і нават не разумеюць, навошта іх мець? Дзе яшчэ знойдуцца тыя, хто будзе дзвюма рукамі падтрымліваць забарону на выезд з краіны, бо самі ніколі нікуды не ездзілі і нават не хочуць?

Баюся, што нідзе.

...Яны сапраўды за ўсё гатовы дзякаваць уладзе. А за тое, што гаспадар яшчэ не забіў, а жыць дазволіў, — дык і рукі абліжуць ліпкімі пацалункамі.

СЛЫШАЛИ?

## *Высшее образование может снова подорожать*

*Министерство образования планирует с нового учебного года в два раза повысить оплату на тех специальностях, где наблюдается переизбыток специалистов и нет соответствующих заявок от предприятий.*

*Об этом в рамках прямой линии сказал Onliner.by министр образования Беларуси **Сергей Маскевич**.*

*"Планируется, что на специальности, где у нас слишком много потом невостребованных выпускников, повысится стоимость обучения. Сейчас государство на каждый миллион рублей, который платит студент-платник, выделяет вузам дополнительный миллион",* — рассказал министр. Именно эти дотации собираются убрать. Стоимость при этом может вырасти с нынешних 6—12 млн до 12—24 млн рублей.

"*По моему мнению, это в основном юридические и экономические специальности, некоторые из которых сейчас не востребованы*", — подчеркнул Маскевич. При этом он отметил, что повышение стоимости обучения коснется только тех, кто станет студентом в новом учебном году.

Что касается цен в вузах в нынешнем году, то в Министерстве образования рассчитывают их больше не повышать.

SOS!



*Сяргей КАВАЛЕНКА:*

# «Уратаваць мяне ад смерці можа толькі народ...»

*Віцебскі актывіст КХП—БНФ Сяргей Каваленка можа памерці ў любую хвіліну. Пратэстуючы супраць, як ён упэўнены, пераследу, супраць прыгавору ў 2 гады і 1 месяц зняволення, патрабуючы незалежнага медыцынскага абследавання, ён гатовы галадаць, ахвяруючы жыццём...*

Нагадаем, Сяргей Каваленка — той самы чалавек, які нажыў праблемы з законам за тое, што вывесіў на навагодняй ёлцы ў Віцебску бел-чырвона-белы сцяг, — галадае не першы месяц. Трапіўшы за краты ў снежні мінулага года, ён адразу абвясціў галадоўку. Праз 30 дзён знаходжання ў Віцебскім СІЗА Сяргея пагрозамі змяшчэння ў псіхіятрычную клініку ўгаварылі галадоўку спыніць. Але за тыдзень да судовага пасяджэння, а дакладней, 8 лютага бягучага года, Каваленка зноў пачаў галадаць... Падчас суда на яго без болю было немагчыма глядзець.

Жонка Сяргея, Алена Каваленка, не змагла ўгаварыць мужа адмовіцца ад такой формы выказвання пратэсту, якая пагражае ягонаму жыццю. Ва ўчарашняй размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" жанчына трымалася з апошніх сіл, але ў яе словах адчуваліся адчай і крыўда. Алена кажа, што ўратаваць Сяргея ад смерці можа толькі магутная грамадская салідарнасць, якой, на вялікі жаль, пакуль няма.

"*Як на галадоўку Сяргея за гэты час адрэагавала грамадзянская супольнасць?* — задаецца пытаннем Алена. — *За выключэннем вывешвання ў ягоную падтрымку бел-чырвона-белых сцягоў — ніяк. Мне сорамна за абыякавасць беларускага грамадства, за раўнадушша людзей. За кратамі памірае чалавек! Памірае не за сябе, а за краіну, за яе будучыню, за нашу годнасць, за наш нацыянальны сцяг. Мне балюча бачыць, як ён памірае, і сорамна за ўсіх нас, за тое, што падобнае дапусцілі. І проста не ведаю, што рабіць у гэтай сітуацыі. Напэўна, трэба ўсім нам, усім неабыякавым людзям выходзіць на плошчу, мітынгаваць, патрабаваць... Але замоўчваць сітуацыю нельга!*"

Сяргей Каваленка — не дзівак-адзіночка, а сябра партыі КХП—БНФ, якую ўзначальвае Зянон Пазьняк. Члены партыі не аднойчы заяўлялі, што менавіта яны з'яўляюцца самымі паслядоўнымі, самымі непрымірымымі, самымі шчырымі барацьбітамі за беларушчыну і справядлівасць у нашай краіне. Што яны робяць для ўратавання свайго паплечніка?

Я вельмі хацеў бы расказаць пра гучныя акцыі з боку партыйцаў, якія прымусілі б беларускія ўлады павярнуцца тварам да праблемы з Сяргеем Каваленкам, але расказваць няма чаго. Чаму?

Нейкі недарэчны адказ на гэтае пытанне ў размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" даў намеснік старшыні КХП—БНФ **Юрась БЕЛЕНЬКІ.** "*Мы калі плануем акцыі, то не будзем гаварыць пра гэта нікому...*" — сказаў ён.

Сапраўды, ніхто з партыйцаў не агучваў заклік правесці, скажам, эстафетную пратэстную акцыю ў падтрымку Сяргея Каваленкі, як гэта было ў 2006 годзе, калі галадаў экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Казулін... Ці пачаць нейкія іншыя акцыі грамадскай нязгоды з судовай расправай над чалавекам усяго толькі за тое, што ён вывесіў сцяг. Затое Юрась Беленькі паведаміў, што пазаўчора быў у Генеральнай пракуратуры, дзе перадаў дзяжурнаму пракурору трэцюю па ліку партыйную заяву.

"*У заяве напісана, што быў здзейснены замах на жыццё Сяргея Каваленкі,* — гаворыць Беленькі. — *Гэта вынікае з наступнага: пасля таго, як у віцебскім СІЗА яго ўгаварылі спыніць галадоўку, яму адразу далі вялікую колькасць ежы. Любы медык ведае, што гэта магло скончыцца лятальна ці як мінімум падарваць здароўе. Што і адбылося. Сяргей стаў пачуваць сябе кепска і зразумеў, што гэта была спроба калі не забіць, дык моцна падарваць ягонае здароўе...*

*У заяве таксама нагадваецца, што паводле дзеючага заканадаўства любая службовая асоба ў выпадку, калі існуе пагроза жыццю чалавека, павінна прымаць дзеянні па ліквідацыі гэтай пагрозы ў межах сваёй кампетэнцыі. Відавочна, што работнікі пракуратуры ніякіх такіх дзеянняў не зрабілі. У заяве мы напісалі, што ацэньваем дзеянні ўсіх службовых асоб, датычных да справы Сяргея Каваленкі, як скіраваныя на тое, каб пазбавіць жыцця Сяргея Каваленку".*

Дзве папярэднія заявы КХП—БНФ адносна сітуацыі вакол Сяргея Каваленкі ніякай рэакцыі з боку Генпракуратуры не выклікалі, але Юрась Беленькі не губляе надзеі, што захады, скіраваныя на ўратаванне Каваленкі, усё ж такі будуць зроблены. *"Фактычна адбываецца забойства Каваленкі,* — гаворыць Беленькі. — *Зрабіўшы такую рэзкую заяву на адрас Генпракуратуры, мы разлічваем, што будуць дзеянні, якія сведчылі б пра тое, што гэтыя людзі не хочуць браць на сябе кроў... Бо калі ўлады хочуць забіць Каваленку, то яны павінны зразумець, што возьмуць на сябе кроў невінаватага чалавека..."*

Свае прапановы па ўратаванні Сяргея Каваленкі днямі агучыў палітык **Віктар Івашкевіч**. Ён адзначыў, што беларускі рэжым разумее толькі сілу, і заклікаў урады еўрапейскіх краін спыніць набыццё беларускіх нафтапрадуктаў і транспарціроўку іх па тэрыторыі Еўропы. "*Зразумела, што Лукашэнка па добрай волі нікога не адпусціць,* — упэўнены Івашкевіч. — *Значыць, трэба прымусіць яго гэта зрабіць. Прымусіць Лукашэнку выпусціць з-за кратаў палітзняволеных, а ў першую чаргу — Сяргея Каваленку, могуць толькі рэальныя эканамічныя санкцыі — такія як адмова еўрапейскіх краін ад пакупкі і транспарціроўкі беларускіх нафтапрадуктаў па тэрыторыі Еўропы".*

Звярнулася да еўрапейскіх палітыкаў і маці Каваленкі Лідзія Уладзіміраўна, якая ўчора бачылася з сынам у СІЗА:

"*Я як маці звяртаюся да кіраўнікоў еўрапейскіх краін. Дапамажыце ўратаваць сына. Лік ідзе не на дні, бо я нават не ведаю, ці дажыве Сяргей да заўтра,* — сказала жанчына, выйшаўшы з СІЗА. — *Мне балюча глядзець на сына. Ён выглядае вельмі дрэнна. Такое адчуванне, што яго хочуць забіць у турме... Рукі сталі тонкімі-тонкімі, скура абвісла... Ён сказаў, што апошні раз яго ўзважвалі на мінулым тыдні — ён важыў каля 50 кілаграмаў. Ягоная тэмпература перад спатканнем была 37,2.*

*Ён вельмі слабы, яму баліць страўнік, праблемы з селязёнкай, апусцілася нырка. Сяргей прызнаўся, што яму балюча спаць на ўласных костках. Яму цяжка ўздымацца, хадзіць. Сёння ён адмовіцца ад прагулкі. У сына правалы ў памяці — падчас спаткання Сяргей некалькі разоў страчваў прытомнасць... Але сказаў, што адмаўляцца ад галадоўкі не збіраецца.*

*Я не маю маральнага права адгаворваць сына ад галадоўкі. Ён невінаваты чалавек і павінен быць на волі, а не ў турме. Сяргей просіць не пісаць яму лістоў з заклікам спыніць галадоўку. Ён сказаў, што яго можа вызваліць і ўратаваць ад смерці толькі народ... І дадаў: "Калі трэба будзе памерці — я памру..."*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

### АД РЭДАКЦЫІ

*"...Уратаваць ад смерці можа толькі народ". Так, народ — галоўная сіла ў краіне. Але хто звярнуўся да рабочых Мінскага трактарнага завода? Хто звярнуўся да салігорскіх шахцёраў? Хто папрасіў дапамогі ў гомельскіх машынабудаўнікоў? У рэшце рэшт: а дзе сіла той жа партыі Зянона Пазьняка? Калі вас тысяча-дзве чалавек, чаму не можаце, згуртаваўшыся, ўратаваць жыццё свайму паплечніку Сяргею Каваленку? Дзе салідарнасць іншых партый — Калякіна, Шушкевіча, Лябедзькі, Янукевіча і астатніх? Дзе практычныя дзеянні сябраў руху "За свабоду", які ўзначальвае небезвядомы спадар Мілінкевіч? А кампанія "Гавары праўду!" Някляева — гэта толькі гаварыльня? А што, ніякай сілы няма ў той інтэлігенцыі, якую ўзначальвае Колас?*

*Цывілізаваны свет мае велізарны вопыт барацьбы за правы чалавека, за жыццё на зямлі. Ён, вядома ж, не абмяжоўваецца толькі падачай заяў у пракуратуру ці зваротамі да замежных краін з просьбай ужыць эканамічныя санкцыі. Дарэчы, ці параіўся наконт апошняга той жа спадар Івашкевіч з рабочымі Мінскага трактарнага завода? Не. А трэба было б параіцца. Разлік на Еўропу, а самі чаго мы вартыя?*

*Сітуацыя, якая стварылася вакол жыцця Сяргея Каваленкі, высвечвае многія аспекты беларускай рэчаіснасці. Гэта экзамен для ўсіх нас. Лік ужо ідзе не на месяцы, не на тыдні, а літаральна на дні, гадзіны.*

СИТУАЦИЯ

# Руки не дошли?

***Похоже на то, что прошения о помиловании Андрея Санникова и Дмитрия Бондаренко отложили в долгий ящик***



## *Александр ЛУКАШЕНКО:*

*— Абсолютно конкретно вам отвечаю: помилую того человека, который ко мне обратится за помилованием. Не обратятся — будут сидеть в тюрьме. Я ответил на вопрос: не обратятся — будут сидеть в тюрьме.*

***(23 декабря 2011 года, пресс-конференция для белорусских журналистов.)***

***

Казалось бы, после такого заявления А.Лукашенко Андрей Санников вот-вот выйдет на свободу. Тем более что, как утверждает Ирина Халип, жена А.Санникова, он еще накануне написал прошение о помиловании.

Но до сих пор Андрей Санников сидит в тюрьме. Его прошение не рассмотрено.

Аналогичная ситуация с Дмитрием Бондаренко, который написал прошение 1 февраля. И это при том, что Бондаренко уже в заключении перенес серьезную операцию на позвоночнике.

Члены комиссии по помилованию при президенте признавались журналистам, что о существовании прошений знают, что документы действительно поступили. И при этом говорили, что надо дождаться заседания комиссии, которая собирается не каждый день, а раз в один-два месяца.

И вот заседание комиссии состоялось. Об этом сообщил член комиссии по помилованию при президенте, председатель комиссии по законодательству и судебно-правовым вопросам Палаты представителей Николай Самосейко. Однако, по его словам, комиссия рассматривала вопрос по делу обвиненных в совершении теракта 11 апреля Дмитрия Коновалова и Владислава Ковалева. Прошения Санникова и Бондаренко по каким-то причинам не рассматривались.

*"Относительно заседания комиссии по помилованию я никаких комментариев давать не буду. Ни по Санникову, ни по террористам, ни по другим значительным или незначительным делам. Все появится в прессе — это компетенция президента",* — отрезал Николай Самосейко.

Ситуация странная. С одной стороны, Александр Лукашенко заявил: "Помилую того, кто ко мне обратится..." Но теперь, когда из политзаключенных прошения фактически выдавили, власти делают вид, что у них нет ни времени, ни желания разбираться с этими бумагами. Согласитесь, это больше похоже на издевательство.

**Елена НОВИКОВА.**

### В ТЕМУ

## *Ирина Халип, жена Андрея Санникова:*

— Водят за нос, делают из нас идиотов. Какая комиссия?.. Когда освобождали других фигурантов по делу 19 декабря — почему не было заседаний никаких комиссий?!

ПОГЛЯД З МАСКВЫ

## *Андрэй СУЗДАЛЬЦАЎ, расійскі палітолаг:*
## *«...А Беларусь застанецца краінай удоў і дзяцей»*

— Лукашэнка можа пайсці на ўвядзенне расійскага рубля толькі ўзамен на тое, што Расія цалкам возьме Беларусь на ўтрыманне. Гэта мара Лукашэнкі: за эканоміку адказвае Расія, а за палітыку — ён. І ён працягвае гэтую форму прасоўваць.

І для Расіі стварэнне рэгіянальнай валюты — гэта выгадна, і мы можам пайсці на сур'ёзныя выдаткі.

Але трэба разумець, што валютны саюз мусіць ісці апошнім, перад гэтым павінны быць створаны эканамічны саюз, агульны рынак, забяспечана свабоднае перасоўванне тавару, капіталу і працы.

Але калі ўсё гэта зрабіць, то Беларусь будзе ўжо зусім іншая.

Зрэшты, Расія можа нічога і не рабіць, і тады Беларусь чакае лёс паўночнай Малдовы. І гэта таксама рэалістычны варыянт.

Праз трохкратную розніцу ў заробках будзе высмоктвацца працоўная сіла.

Беларусы самі пачнуць з'язджаць у Расію. А Беларусь застанецца краінай удоў і дзяцей.

### АД РЭДАКЦЫІ

Што і казаць, сумна робіцца ад прагнозаў спадара Суздальцава. Але і махнуць рукой на іх нельга — пра лёс краіны, пра лёс кожнага з нас ідзе размова.

І, браткі-беларусы, давайце разам шукаць выйсце з той надзвычай складанай сітуацыі, у якой апынуліся. У чарговы раз прапануем старонкі "Народнай Волі" для ўсіх, каго хвалюе заўтрашні дзень Беларусі, будучае нас і нашых дзяцей.

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

*Заместителю председателя Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов*
***ЛОЗОВИКУ Николаю Ивановичу***



# Будут честные выборы — исчезнут всякие «черные списки»

Николай Иванович! Я внимательно прочитал Ваше интервью, опубликованное в "Советской Белоруссии" за 17 февраля. Вы сказали: *"Санкции — это плод больного воображения".* Как можно понять из Ваших дальнейших рассуждений, Вы возмущены тем, что Вас включили в "черные списки", а теперь, несмотря на инициативу "Офиса за демократическую Беларусь", не хотят вычеркивать из них. И дальше досадуете:

*"Люди должны иметь возможность общаться друг с другом, глядя прямо в глаза, а не через искусственно возведенный забор. Я уже не говорю о том, что цивилизованные отношения предполагают диалог на равных условиях, отношение друг к другу как к свободным субъектам".*

Хорошие слова, правильные. Ну так давайте пообщаемся, Николай Иванович, я готов встретиться с Вами и поговорить, "глядя прямо в глаза". Или Вы приезжайте ко мне в деревню, или я приеду в назначенный день в Минск. Принимайте решение. А пока я повторно обращаюсь письменно к Вам, на этот раз с "Открытым письмом" через страницы "Народной Воли" (в государственных газетах мне это не позволят сделать).

Я, Николай Иванович, участвовал почти во всех выборах, начиная с 2000 года, поэтому могу оценить деятельность избирательных комиссий не по чьим-либо отчетам, а по тому, что видел собственными глазами. Помнится, в 2000 году в период избирательной кампании в Палату представителей почти все претенденты в депутаты от оппозиции получили отказ в регистрации под формальными, надуманными предлогами. Получил отказ и я. Тогда многие "отказники" приехали к Вам в ЦИК обжаловать решение об отказе. Мы ждали начала заседания комиссии на первом этаже, там, в коридоре, сидел за столом сын очень важной вашей персоны — не знаю, что он записывал и чего он там сидел, но слово за слово — и мне удалось получить интересную информацию. Я его тогда спросил: ну ты же знаешь, кого зарегистрируют, а кого нет? Он, видимо, желая подчеркнуть свою значимость, сказал: "Да, знаю, но это информация для служебного пользования". Для него, может быть, это была информация, не подлежащая распространению, но, Николай Иванович, не может быть что-то тайной, если об этом знают, можно сказать, даже посторонние. Уже тогда стал ясен механизм "отсеивания" неугодных претендентов на депутатский мандат, их просто не регистрировали под разными надуманными предлогами. В дальнейшем эти механизмы менялись, и на последних парламентских выборах почти всех кандидатов зарегистрировали, даже тех, кто, возможно, не собрал нужное количество подписей. Но, как позже выяснилось, это была хитрая уловка: мол, смотрите, какая у нас либеральная комиссия, даже закрывает глаза на кое-какие нарушения законодательства. Все было впереди. При подсчете голосов настолько их "правильно посчитали", что опять никто из оппозиционных кандидатов не был избран. Некоторые стали называть такой парламент "стерильным", он, как когдатошний Верховный Совет СССР, ничего не решает, а только "одобряет" генеральную линию.

19 декабря 2010 года, во время президентских выборов, я был наблюдателем на избирательном участке. Когда начался подсчет голосов, я стоял примерно в четырех метрах от стола, где считались бюллетени. Председатель комиссии Юрий Александрович Бекиш не подпускал меня, сказал, что может удалить с избирательного участка, если я хотя бы на шаг приближусь к столу. Бюллетени складывались в стопки, с четырех метров мне не было видно, за кого было сколько голосов. Поэтому я обратился к председателю комиссии: "Скажите мне, пожалуйста, за кого конкретно голоса в каждой стопке?" В ответ услышал: "Отойдите от стола!" Я тогда сказал: "Если вы честно считаете, то чего боитесь сказать и показать?" "Не положено, отойдите, иначе я вас удалю!" — послышалась угроза председателя комиссии. Я не стал спорить, хотя так и хотелось выпалить все про "прозрачность выборов". Замечу, в это время другой наблюдатель, женщина, которая была в изрядном подпитии, стала на меня кричать и требовать, чтобы я отошел в сторону и не мешал комиссии. Стол для наблюдателей стоял метрах в десяти от места подсчета голосов, там действительно сидели наблюдатели от разных общественных организаций. Чего они там "наблюдали", я сказать не могу, по-моему, они отбывали какую-то повинность.

Николай Иванович! Скажу прямо: при подсчете голосов работа комиссии напоминала работу наперсточников. Все делалось втихую, шепотом, пошуршали-пошуршали бюллетенями, сложили их в стопки, написали какие-то цифры на бумажки, председатель эти бумажки собрал, подошел к секретарю избирательной комиссии, сидевшей поодаль, шепотом посовещались, заполнили протокол, по которому почти 90 процентов голосов оказалось, понятное дело, за А.Г.Лукашенко.

Если за Александра Григорьевича действительно было подано почти 90 процентов голосов, то что мешало председателю комиссии Ю.А.Бекишу показать стопки с бюллетенями? Что? Вряд ли Вы, Николай Иванович, честно ответите на этот вопрос. А я отвечу: не было там такого процента. Я придерживаюсь мнения тех аналитиков, которые утверждают, что должен был быть второй тур, а во втором туре, возможно, победил бы Андрей Санников, который сейчас сидит в тюрьме.

Вы, Николай Иванович, в своем интервью говорите: *"Так что обвинения ЦИК в фальсификации итогов голосования еврочиновники высосали из пальца".* Получается, что председатель участковой избирательной комиссии Юрий Александрович Бекиш по своей инициативе избрал такую технологию подсчета голосов, которую я наблюдал, а члены Центральной избирательной комиссии тут ни при чем. По Избирательному кодексу председатель участковой комиссии Ваш подчиненный, и Вы не знаете, что он "творит"? Кого Вы хотите убедить в этом? Ну, может, того пьяного наблюдателя Вы и убедите, а я, Николай Иванович, приходил на избирательный участок, чтобы разобраться, честно или нечестно считают голоса! Из того, что я видел лично, могу сказать: честного подсчета голосов не было! Не было! О чем я и написал в протоколе, из пальца я ничего не высасывал. Николай Иванович, честно так голоса не считают.

Вы, Николай Иванович, предлагаете *"общаться друг с другом, глядя прямо в глаза".* Возникает вопрос: с кем Вы хотите общаться? С еврочиновниками, чтобы они Вас исключили из "черных списков", или с представителями оппозиции, которые ставят под сомнение честность проводимых выборов? С кем? Причем на *"равных условиях"* и при *"отношении друг к другу как к свободным субъектам".*

Вам, очевидно, известно, что бывший кандидат в президенты Дмитрий Усс выступает с инициативой о внесении изменений в Избирательный кодекс. Если конкретно, то он ставит вопрос так: *"...на весенней сессии Палаты представителей внести реальные изменения в Избирательный кодекс, суть которых — "считаем голоса вместе". Оргкомитет предлагает каждый бюллетень показывать доверенным лицам и наблюдателям и складывать их в отдельную стопку за каждого кандидата".*

Пригласите, Николай Иванович, в ЦИК Дмитрия Усса и поговорите с ним, *"глядя прямо в глаза".* Он Вам пояснит, стоит Вас исключать из "черных списков" или нет. Я считаю, что не стоит.

Николай Иванович, то, что Вас включили в "черные списки", — это, можно сказать, очень мягкое наказание. Хотя Вы и отрицаете свою причастность к нарушениям законодательства, но, Николай Иванович, Вы же понимаете, что в случае объективного расследования любой участковый "Анискин", не говоря уже об опытных следователях, очень легко установит истину и выяснит, как рождались те или иные цифры, как исполнялись служебные обязанности тем или иным лицом, в том числе членами Центральной избирательной комиссии, теми, кто организовывал выборы на местах. Тот же Ю.А.Бекиш многое расскажет. Или Вы надеетесь, что, как и в беседе с журналистом, сделаете вид, что не понимаете, о чем идет речь? Вам про Фому, а Вы про Ерему. К сожалению, время объективного разбирательства еще не пришло, но, Николай Иванович, вечного ничего нет, все тайное станет явным. Хотя какая уж тут тайна!

Вы говорите: *"...таким непримиримым революционерам все мечтается "свергнуть режим" путем блокад и закрытия торговли. Но не будем обсуждать этот клинический случай".*

У них, значит, *"клинический случай",* а у Вас? Мы с Вами живем в одной стране, говорим на одном языке, а разговора не получается, Вы слушать не хотите!

Николай Иванович, выборы будут проводиться честно, голоса подсчитываться открыто, и тогда не будет никаких "черных списков", и совесть никого не будет мучить, и уголовная ответственность не наступит.

**Александр ВАСИЛЬЕВ, наблюдатель на президентских выборах 2010 года.**



*Гродненский район.*



ЦЭНТРАЛЬНАЯ КАМІСІЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ
вул. Савецкая, 11, 220010, г. Мінск
Дом Урада
тэл./факс (+375 17) 227 19 03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

ЦЕНТРАЛЬНАЯ КОМИССИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ПО ВЫБОРАМ И ПРОВЕДЕНИЮ РЕСПУБЛИКАНСКИХ РЕФЕРЕНДУМОВ
ул. Советская, 11, 220010, г. Минск
Дом Правительства
тел./факс (+375 17) 227 19 03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

28.02.2012 № 01-10/В-4
На № ________ ад ________

Васильеву А. А.
д. Стародубовская, 81/1
231172, Гродненская обл.

Александр Александрович, стиль и содержания вашего письма свидетельствуют, что вы абсолютно уверены в своей правоте и у вас нет ко мне вопросов, требующих обсуждения и разъяснения. В письме вы поделились не мнением, которое можно было бы оспаривать, а убеждениями. Согласитесь, что оспаривать убеждения – бесперспективно. Вашу позицию я принимаю к сведению.

Не буду утверждать, что ваше письмо доставило мне удовольствие. Более того, ваши безосновательные и безапелляционные рассуждения о моей причастности к каким-то фальсификациям и об уголовной ответственности за это мне неприятны, т.к. попахивают клеветой и угрозой. Но сам факт, что вы можете свободно излагать свою позицию, направлять подобные письма в государственный орган говорит о реальной свободе слова в нашей стране.

Секретарь комиссии [подпись] Н.И.Лозовик

***P.S.*** *23 февраля с.г. я отправил почти такое же письмо в адрес Н.И.Лозовика. Вот какой ответ получил (копия прилагается). Выразить свою позицию через газету, обратившись к Н.И.Лозовику уже с "Открытым письмом", хочу в связи с дипломатическим скандалом, вызванным введением ЕС санкций против чиновников Беларуси, попирающих права человека.*

**ОТ РЕДАКЦИИ**

*Есть ли необходимость комментировать как "Открытое письмо" А.А.Васильева, так и ответ Н.И.Лозовика на ранее направленное ему послание? Считаем, что и без того всем все понятно. Захотят читатели откликнуться — всегда найдется место на газетных страницах.*

СТОП-КРАН

# Таямнічы спіс

*"Чорны спіс" невыязных з Беларусі палітыкаў і грамадскіх актывістаў з кожным днём пашыраецца.*

Першымі даведаліся аб тым, што ім нельга выязджаць з Беларусі, палітыкі **Анатоль Лябедзька, Сяргей Калякін, Віктар Карняенка**, праваабаронца **Валянцін Стэфановіч**. На мяжы ўсім параілі звяртацца за тлумачэннямі ў Дэпартамент па грамадзянстве і міграцыі МУС па месцы жыхарства. Праўда, пазней начальнік Дэпартамента **Аляксей Бягун** заявіў, што ў яго *"няма адпаведнай інфармацыі па гэтым пытанні"*. Маўляў, неабходна шукаць тых, хто выносіў рашэнне пра абмежаванне права гэтых людзей на выезд. Генеральная пракуратура абвясціла, што таксама нічога не ведае пра "чорныя спісы". Адным словам, напусцілі туману...

Але праз колькі дзён стала вядома, што спіс пашыраецца. У яго патрапіў таксама кіраўнік РПГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт" **Алег Гулак**, 14 сакавіка за межы Беларусі не дазволілі выехаць шэф-рэдактару газеты "Наша Ніва" **Андрэю Дынько**, учора не выпусцілі за мяжу кіраўніка Мінскага бюро тэлеканала "Белсат" **Міхася Янчука** і старшыню ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" **Жанну Літвіну**, якая раніцай павінна была вылецець у Варшаву з аэрапорта "Мінск".

— Ведаючы пра "чорныя спісы", свой прыход у аэрапорт я пачала з размовы з памежнымі службамі, — распавяла Жанна Мікалаеўна журналістам. — І адразу ж лёгка было высветлена, што я таксама ўваходжу ў спіс асоб, якім абмежаваны выезд з краіны. На маё пытанне, хто прымаў гэтае рашэнне і на якой падставе, патлумачылі, што звычайна гэта робіць міліцыя. Параілі звярнуцца ў рэгіянальны аддзел Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі і авіякампанію "Белавія", каб кампенсавалі кошт майго квітка. На гэтым паважлівая размова з памежнікамі і скончылася. У пашпарт паставілі адзнаку: "У выездзе адмоўлена". Па горкай іроніі гэта адбылося акурат у Дзень Канстытуцыі, артыкул 30 якой гарантуе грамадзянам краіны свабоду перамяшчэння.

Адным словам, спіс пашыраецца, але колькі там чалавек акажацца і хто канкрэтна, сказаць складана. Канфлікт паглыбляецца, і можна ўжо нават гаварыць аб супрацьстаянні. З аднаго боку, Еўрасаюз пашырыў санкцыі, з другога — афіцыйны Мінск дэманструе сваю пазіцыю, звязаную з абмежаваннем выезду з краіны людзей, якіх улада, магчыма, лічыць дэструктыўнымі элементамі. Думаю, пашырэнне спісу шмат у чым будзе залежаць ад падзей міжнародага ўзроўню. Для нас знакавым днём можа стацца разгляд Саветам міністраў ЕС "беларускага пытання".

Паводле слоў Жанны Літвіной, у адпаведнасці з заканадаўствам яна будзе дамагацца інфармацыі пра тое, хто зрабіў яе невыязной і на якой падставе, каб аднавіць права, якое гарантавана Канстытуцыяй. Акрамя таго, ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" звернецца ў Генеральную пракуратуру з патрабаваннем зрабіць захады па аднаўленні законнасці.

**ДАРЭЧЫ**

Праваабаронцы з РПГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт" Алег Гулак і Гары Паганяйла даведаліся аб тым, што знаходзяцца ў "чорным спісе", не выязджаючы на памежжа.

— Я думаю, кожны можа даведацца, ці знаходзіцца ён у спісе невыязных, і для гэтага не варта ехаць на мяжу, — распавядае Гары Паганяйла. — Асабіста я пайшоў атрымаць інфармацыю ў раённае аддзяленне Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі па месцы жыхарства. Спачатку мне не хацелі даваць ніякую даведку, але пасля таго, як дамогся сустрэчы з начальнікам, паглядзелі базу даных і паведамілі, што я на самай справе часова не маю права выязджаць за мяжу. Падстава — быццам бы да мяне мае прэтэнзіі Міністэрства юстыцыі па іску аб банкрутстве. Зараз буду высвятляць абставіны і абскарджваць рашэнне. У нейкім сэнсе падобная сітуацыя і з Алегам Гулаком.

КАДР ДНЯ



Вертолет белорусского МЧС помогает строителям многоэтажного дома заменить неисправный электромотор строительного крана на новый. Минск, март 2012 года.

**Фото photo.bymedia.net**

## *Назвы трэцяй лініі метро выносяць на абмеркаванне*

Камісія па найменаванні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых састаўных частак Мінска прапанавала назвы для станцый трэцяй лініі метрапалітэна, якая, паводле папярэдніх планаў, павінна запрацаваць у 2017 годзе.

— Станцыя, размешчаная на скрыжаванні вуліц Кіжаватава і Каржанеўскага, — "Слуцкі гасцінец".

— Станцыя на скрыжаванні вуліц Кіжаватава і Асіповіцкай — "Немаршанскі парк".

— Станцыя на тэрыторыі былога аэрапорта "Мінск-1" — "Аэрадромная".

— Станцыя на скрыжаванні вуліц Жукоўскага і Варанянскага — "Кавальская Слабада".

— Перасадачная станцыя на скрыжаванні 1-й і 3-й ліній метро ля чыгуначнага вакзала — "Вакзальная".

— Станцыя на скрыжаванні вуліц Клары Цэткін і Нямігі на плошчы Багушэвіча — "Плошча Францішка Багушэвіча".

— Перасадачная станцыя на скрыжаванні 2-й і 3-й ліній метро на Юбілейнай плошчы — "Юбілейная плошча".

АФІЦЫЙНА

## *Бясплатны праезд для школьнікаў і студэнтаў адменяць*

*З 1 чэрвеня гэтага года ім давядзецца купляць талончыкі.*

Аб гэтым паведаміў старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька.

Паводле слоў Ладуцькі, школьнікі летам сыходзяць на вакацыі, іншагароднія студэнты з'язджаюць з горада, а ў тых, хто застаецца, ёсць магчымасць падзарабіць, таму неабходнасці ў захаванні такой ільготы на летні перыяд няма.

Магчыма, у словах гарадскога начальніка ёсць рэзон.

Як і ў яго апанентаў, якія лічаць, што летам, калі ў сталіцы сапраўды застанецца мала студэнтаў, казна ад адмены льготнага праезду папоўніцца на нейкую дробязь.

РЭАЛІІ

## На сярэдні заробак беларус можа купіць бензіну маркі АІ-92 у 2 разы менш, чым расіянін

14 сакавіка ў Беларусі рознічныя кошты на бензін і дызельнае паліва павялічыліся ў сярэднім на 5 працэнтаў. У канцэрне "Белнафтахім" чэсна прызналіся, што зроблена гэта *"ў мэтах паэтапнага збліжэння коштаў тавараў у краінах Мытнага саюза і павышэння эфектыўнасці працы беларускіх нафтаперапрацоўчых заводаў"*. Напэўна, каб беларусы ўяўлялі, на колькі яшчэ падаражэе бензін, у канцэрне нагадалі, што *"дзеючыя рознічныя кошты на нафтапрадукты (з улікам павелічэння) застаюцца ніжэйшымі за ўзровень аналагічных коштаў у Расійскай Федэрацыі на 18—25%"*.

Пра заробкі, праўда, не ўзгадалі. А між імі сёння бездань: сярэдні заробак у Расіі складае прыблізна 1000 долараў, у Беларусі — 351. Літр самага папулярнага бензіну АІ-92 у Расіі каштуе 91 цэнт, у Беларусі — 73. Значыць, на сярэдні заробак расіянін можа купіць 1 тысячу 98 літраў паліва гэтай маркі, а беларус — усяго толькі 480 літраў. І гэта сёння. А калі кошты на паліва ў нашых краінах зраўняюцца, то гэтая розніца толькі ўзрасце.

Дарэчы, што тычыцца трэцяй краіны-ўдзельніцы Мытнага саюза — Казахстана, то сёння там кошты на паліва меншыя, чым у Беларусі. Напрыклад, літр АІ-92 каштуе на казахстанскіх АЗС 71 цэнт. Але заробкі ў Казахстане вышэй, чым у Беларусі, — сярэдняя зарплата па краіне складае 525 долараў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

### Сярэдні заробак і кошты на аўтамабільнае паліва ў краінах Мытнага саюза (у доларах ЗША)

| Краіна | Сярэдняя заработная плата | Нармаль-80 | АІ-92 | АІ-95 | Дыз. паліва |
|---|---|---|---|---|---|
| Расія (цэнтральны рэгіён) | 1000 | 0,8 | 0,91 | 0,98 | 0,95 |
| Казахстан | 525 | 0,58 | 0,71 | | 0,6 |
| Беларусь | 351 | 0,69 | 0,73 | 0,79 | 0,8 |

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Што, асуджаных за тэракт у метро расстралялі?*

Маці Уладзіслава Кавалёва прыехала ў Мінск, каб даведацца пра лёс сына, асуджанага да смяротнага пакарання за саўдзел у тэрарызме.

14 сакавіка па тэлеканале "Беларусь 1" было абвешчана, што Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву, прызнанымі вінаватымі ў тэрарызме, Лукашэнка адмовіў у памілаванні.

Любоў Кавалёва сказала, што мае намер у першую чаргу сустрэцца з адвакатам сына Станіславам Абразеем, каб высветліць, чым матывавана адмова ў памілаванні.

Тым часам, перадае БелаПАН, высветлілася, што адваката Кавалёва не пусцілі да падабароннага ў СІЗА КДБ не толькі 14 сакавіка, але не пускаюць і сёння.

Спецыялісты не выключаюць, што смяротны прысуд у дачыненні да Канавалава і Кавалёва ўжо прыведзены ў выкананне, а паведамленне пра адмову ў памілаванні было зроблена пастфактум.

Гэта магло адбыцца пасля 11 сакавіка — у той дзень маці і сястра Кавалёва атрымалі з ім трохгадзіннае спатканне ў СІЗА КДБ.

Пасля спаткання сястра асуджанага Таццяна расказала: больш за ўсё яе ўразіла не тое, што брат выглядаў моцна стомленым і "губляючым баявы дух", а стаўленне да іх высокага чыноўніка адміністрацыі ізалятара.

Па словах дзяўчыны, ён быў вельмі ветлівым, чаго не здаралася раней, адказваў на ўсе пытанні маці.

Сваякам нават дазволілі выбраць Уладзіславу ў найбліжэйшай кнігарні кнігі ў мяккай вокладцы, накіраваць спіс асуджанаму, а тое, што ён выбера, — затым набыць.

Разам з тым, на думку экспертаў, прысуджаныя да смяротнага пакарання могуць быць жывыя.

Канавалаў і Кавалёў знаходзяцца ў поўнай ізаляцыі ў СІЗА КДБ, і ім, можа быць, яшчэ не вядома пра тое, што Лукашэнка адмовіўся іх памілаваць. Дарэчы, хадайніцтва на імя Лукашэнкі падаваў толькі Кавалёў. Канавалаў, паводле афіцыйнай інфармацыі, — не. У гэтым выпадку любыя сустрэчы з адвакатамі і сваякамі выключаюцца, бо аб рашэнні кіраўніка дзяржавы асуджаныя да смяротнага пакарання (прынамсі, раней) даведваліся непасрэдна перад прывядзеннем прысуду ў выкананне, кажуць спецыялісты.

Самы аптымістычны, але самы малаверагодны варыянт развіцця падзей — пасля паказальнага абвяшчэння рашэння прэзідэнта ў краіне можа быць уведзены мараторый на смяротнае пакаранне.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Достанет ли белорусская Фемида Лорана Аринича?

*Чем ближе приговор по делу о пожаре на "Пинскдреве", тем больше слухов о судьбе бывшего директора этого предприятия **Лорана АРИНИЧА,** который в минувшем году уехал за границу — будто бы на лечение. И не вернулся.*

*Правда ли, что Аринич намерен просить убежища в Польше?*



Как уже сообщала "Народная Воля", приговор по делу о пожаре на "Пинскдреве", повлекшем гибель людей, будет объявлен 23 марта.

Дело слушается в Пинске на выездных заседаниях коллегии Брестского областного суда. В качестве обвиняемых — бывшие главный инженер ЗАО "Холдинговая компания "Пинскдрев" **Владимир Шестаков**, директор СООО "Пинскдрев-ДСП" **Леонид Логвин** и главный инженер этого же предприятия **Игорь Логвин.**

Леонид Логвин обвиняется по части 2 статьи 428 *("Служебная халатность", санкция — до 5 лет лишения свободы*), двум другим обвиняемым инкриминирована часть 3 статьи 304 *("Нарушение правил пожарной безопасности", до семи лет лишения свободы).*

Уголовное дело в отношении **Лорана Аринича** выделено в отдельное производство. Бывшего гендиректора ЗАО "Холдинговая компания "Пинскдрев" вначале подозревали в злоупотреблении служебными полномочиями, затем его действия были переквалифицированы на "Служебную халатность", однако до недавнего времени обвинения по этой статье ему так и не предъявили.

Сейчас Аринич находится в розыске, вынесено постановление о применении в отношении него меры пресечения в виде содержания под стражей.

Кстати, адвокат Аринича **Дмитрий Горячко** сказал, что сообщение о розыске его подзащитного, *"озвученное в ходе одной из пресс-конференций, стало неожиданностью для стороны защиты — документы о необходимости в лечении следствию были предоставлены".*

*"Необходимости избирать меру пресечения в виде ареста сторона защиты не видит, ведь речь идет не только об опытном руководителе, имя которого долгие годы известно в Беларуси, но еще и о больном человеке, достигшем 75-летнего возраста,* — заявил Горячко в интервью "Белгазете". — *Согласитесь, в стране немного руководителей с именем, которые длительное время руководят таким огромным коллективом, как холдинг "Пинскдрев". А ведь это предприятие на протяжении долгого времени было и остается успешным..."*

В ноябре минувшего года Лоран Аринич отметил свое 75-летие. Может, суд сделал бы ему скидку на возраст, былые заслуги и, например, осудив условно, оставил Лорана Степановича на свободе?

Адвокаты в ответ на это разводят руками: санкция статьи, инкриминируемой Ариничу, предусматривает лишение свободы. И вспоминают уголовное дело по колхозу "Рассвет" — дважды Герой Социалистического Труда 73-летний **Василий Старовойтов** около двух лет провел на нарах. А у Старовойтова заслуг побольше, чем у Аринича. К тому же в деле Старовойтова не было человеческих жертв...

На самом ли деле Аринич намерен просить убежища в Польше?

*"Не знаю, мы эти вопросы никогда не обсуждали, они выходят за рамки моих полномочий*, — ответил "Народной Воле" адвокат Аринича. — *Поэтому мне тяжело сказать, что он будет делать и какие принимать решения".*

НЕПРОСТОЙ ВЫБОР

## Все равно, где умирать?

Правильно ли сделал Лоран Аринич, уехав в Польшу?

С одной стороны, видимо, сохранил себе нервы, здоровье и, может быть, даже продлил жизнь — в колонии не каждый 40-летний выдерживает, а тут человеку уже без пяти лет 80.

А с другой стороны... Это все-таки бегство, даже трусость. И как-то не по-мужски.

Что думают по этому поводу те, кто не понаслышке знает, что такое быть за решеткой, и кто оказался на нарах уже в преклонном возрасте?

**Дмитрий ГОРЯЧКО, адвокат:**

— Я не могу рассуждать на эту тему, потому что Лоран Степанович — мой клиент.

**Василий СТАРОВОЙТОВ, бывший председатель колхоза "Рассвет", дважды Герой Социалистического Труда:**

— Я не следил за подробностями этого дела, поэтому мне сложно анализировать. В колонии тяжело — на собственном опыте знаю. Тюрьма — это дрянное дело, здоровья она точно не прибавляет...

*Кстати: за решеткой Старовойтов перенес два сердечных приступа, микроинсульт, после которого некоторое время не мог говорить, практически потерял зрение...*

**Василий ЛЕОНОВ, экс-министр сельского хозяйства:**

— Я в Оршанской колонии отметил свое 60-летие. Так что в период заключения был моложе Аринича...

А сидеть в тюрьме или бежать из страны — это выбор каждого человека. Я уже не раз рассказывал: меня за сутки до задержания очень серьезные люди предупредили, что выписан ордер на мой арест. Предлагали уехать — хоть в Россию, хоть в Европу. Но я отказался. Потому что, в моем понимании, если сбежал — значит, виновен.

Уже в колонии, дней через десять после посадки, меня навестила адвокат. И она сразу предложила написать покаянное письмо на имя Лукашенко — мол, тогда вас выпустят. Я выразился по-мужски, заявив, что мне не в чем каяться.

Директор предприятия, попавший в поле зрения следствия, должен выбрать свою модель поведения. Но если посадили и уже судят его подчиненных, которым грозят немалые сроки, то надо было или их с собой забирать в Польшу, или вместе с ними идти за решетку. Это было бы по-мужски. В конце концов, в таком возрасте какая разница, где умирать? Главное, чтобы с чистой совестью. А на суде тот же Аринич мог бы как директор многих и спасти от срока в колонии своими показаниями. Потому что он прекрасно знал, что творилось на предприятии. И на нем вся ответственность — поэтому у директоров и зарплата всегда больше.

Говорят, что каждый спасает свою шкуру. Но далеко не каждый, на мой взгляд, поступил бы так, как Аринич...

**Марина КОКТЫШ.**

## Хто адпачне ў "Прэзідэнт-гатэлі"?

*Будаўніцтва пяцізоркавага "Прэзідэнт-гатэля" блізіцца да завяршэння. Чакаецца, што ў другой палове года тут будуць першыя пастаяльцы.*

Як расказаў дырэктар РУП "Гатэль "Мінск" **Мікалай Жураўскі**, цяпер у новым комплексе ідуць мантажныя і аддзелачныя работы. Пасля іх заканчэння спатрэбіцца яшчэ некалькі месяцаў на ўстаноўку і наладку абсталявання, мэблі.

У новым гатэлі будуць два жылыя корпусы ў 11 і 9 паверхаў на 154 нумары, у тым ліку VIP-нумар плошчай 500 кв. м з уласнай саўнай.

## Беларусы перайшлі на дыетычны хлеб

*Людзі сталі больш купляць дыетычныя і ўзбагачаныя гатункі хлеба.*

Часцей за ўсё аддаюць перавагу хлебу з жытняй мукі і сумесі жытняй і пшанічнай мукі. Выпрацоўка такога хлеба складае каля 90% агульнага аб'ёму. Па словах начальніка аддзела хлебапякарнай і макароннай прамысловасці дэпартамента па хлебапрадуктах Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання **Марыны Кашко**, пераважна гэта заварныя гатункі хлеба, у якіх выкарыстоўваюцца бульбяная крупка, солад, хмель і іншыя натуральныя кампаненты.

**Вера ВІР.**

## Беларускі сыр з блакітнай цвіллю з'явіцца ў маі

*Нарачанскі масласырзавод ужо прыступіў да вытворчасці сыру з блакітнай цвіллю тыпу ракфор.*

Цяпер ідзе паспяванне сыру "Рафорці" (яго выпрацоўваюць на працягу 60 сутак), сыраробы разлічваюць атрымаць гатовы прадукт да канца красавіка. Затым навінка паступіць у продаж.

*"Гэта зусім новая для нас вытворчасць, яе магутнасці невялікія — адна тона ў суткі. Рэцэптуру сыру стварылі работнікі Інстытута мяса-малочнай прамысловасці, яны забяспечваюць навуковае суправаджэнне праекта",* — цытуе belta.by дырэктара ААТ "Маладзечанскі малочны камбінат" **Уладзіміра Бобрыка.**

Раней Беларусь завозіла сыру з блакітнай цвіллю да 150 тон у год. Беларускі аналаг замежнага далікатэсу, як чакаецца, будзе каштаваць на парадак танней за замежны.

СКАНДАЛ

## Рубанулі шабляй!

*Спартсмены з каманды шаблістаў Беларусі з'ездзілі ў Венгрыю на этап Кубка свету турыстамі, пасля чаго адбыўся разбор палётаў і раздача сланоў. Зараз з адказных спартыўных чыноўнікаў збіраюцца спагнаць грошы.*

На пачатку гэтага месяца беларуская шабельная каманда прыехала ў Будапешт на чарговы этап Кубка свету, але ў спаборніцтвах камандзе ўдзельнічаць не дазволілі. Аказалася, што адказныя беларускія чыноўнікі не даслалі заяўку. Улічваючы, што на паездку былі затрачаны вялікія грошы, адразу пачалі шукаць вінаватых.

*"З боку Міністэрства спорту і турызму ўся работа па забеспячэнні каманды была праведзена*, — зрабіў заяву прэс-сакратар спартыўнага ведамства Уладзімір Несцяровіч. — *А вось заяўка ў аргкамітэт турніру, якую павінна адпраўляць федэрацыя, не паступіла. За яе падрыхтоўку і накіраванне адказвалі дзяржаўны трэнер Ігар Крэнцік, галоўны трэнер зборнай Максім Лагоцька і трэнер-метадыст Генадзь Халяўскі, які таксама з'яўляецца генеральным сакратаром федэрацыі. Акрамя таго, пракантраляваць працэс павінен быў кіраўнік дэлегацыі Аляксандр Сурымта, праз якога праходзяць усе дакументы"*.

Як стала вядома, у бліжэйшы час міністр спорту і турызму Алег Качан павінен падпісаць дакументы аб пакаранні вінаватых. На пасяджэнні прэзідыума федэрацыі было вырашана, што вінаватыя павінны вярнуць грошы, якія былі патрачаны на паездку, але механізм вяртання грошай і віна кожнага будуць яшчэ высвятляцца.

— Перш-наперш хачу сказаць, што пратакол прэзідыума федэрацыі яшчэ не падрыхтаваны, пакуль там выказваліся толькі меркаванні, — пракаментаваў "Народнай Волі" сітуацыю галоўны трэнер зборнай Беларусі па фехтаванні **Максім ЛАГОЦЬКА**. — Але вымовы федэрацыяй нам аб'яўлены.

**— Чаму ж заяўка не была адпраўлена?**

— Міністэрства спорту і я як супрацоўнік міністэрства ўсе дакументы падрыхтавалі. Заяўка падаецца праз сайт Міжнароднай федэрацыі фехтавання, для чаго неабходны персанальны код, які ведаў, наколькі мне вядома, толькі адзін чалавек — генеральны сакратар федэрацыі. Я не магу дакладна сказаць, чаму не адаслалі заяўку, але задача галоўнага трэнера, напэўна, перш за ўсё рыхтаваць каманду да спаборніцтваў. Арганізацыйнымі пытаннямі ёсць каму займацца. Міжнародная федэрацыя супрацоўнічае толькі з нацыянальнымі федэрацыямі. Тым больш у той час, калі вырашалі гэтыя пытанні, я быў на зборах у Стайках, ездзіў са зборнай на этапы Кубка свету. Я думаю, што, у рэшце рэшт, у гэтай сітуацыі разбяруцца па справядлівасці.

**— Вялікія грашовыя страты панесла каманда?**

— Дастатковыя. Дзевяць чалавек з'ездзілі ў Венгрыю.

**Алесь СІВЫ.**

ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

# Вывелі пад рукі

## *Ва ўнутраных войсках спалохаліся журналісткі "Народнай Волі"*



**Што, генерал Гайдукевіч, гэта вы далі каманду на дапусціць на сустрэчу з вамі журналіста "Народнай Волі"?**

Інцыдэнт адбыўся ў навучальным корпусе, які месціцца на тэрыторыі вайсковай часці №3214, якую ў народзе па старой памяці завуць "брыгадай Паўлічэнкі".

Аб тым, што ў брыгадзе адбудзецца прэс-канферэнцыя намесніка міністра ўнутраных спраў Беларусі, камандуючага ўнутранымі войскамі генерал-маёра Валерыя Гайдукевіча, стала вядома з афіцыйнага сайта МУС. Там паведамлялася, што сустрэча прысвечана юбілею стварэння беларускіх УВ, што журналістам у гонар гэтага дня і раскажуць, і адкажуць, і пакажуць...

Чаму б і не атрымаць інфармацыю з першых вуснаў? Ну колькі можна размаўляць праз барыкады?

Прыгожая вясновая раніца. Прыгожы ваенны гарадок. На КПП паказваю рэдакцыйнае пасведчанне "Народнай Волі", і мяне даволі добразычліва праводзяць у корпус, дзе павінна адбыцца прэс-канферэнцыя.

Вельмі ветліва забралі куртку. Паведамілі, што турбавацца не трэба, што самі аднясуць маю вопратку ў гардэроб. Прапанавалі садзіцца за авальны стол на любое месца, якое спадабаецца. Мне, зразумела, спадабаўся той бок стала, дзе я буду бліжэй да камандуючага, каб не толькі мець гарантаваную магчымасць задаць пытанне, але і добра бачыць рэакцыю генерала.

На стале насупраць кожнага крэсла ўжо стаялі таблічкі з назвамі выданняў. Насупраць мяне апынуліся тры таблічкі: БТ, СТБ і АНТ. Крыху далей — месца для журналіста міліцэйскай газеты "На страже". Я нават паспела здзівіцца: "Як гэта яны так загадзя ведалі, хто да іх прыйдзе, хто не прыйдзе, каго зацікавіць прэс-канферэнцыя, каго — не..." Але калегі спакойна раскладвалі свае дыктафоны ды нататнікі, для іх нічога незвычайнага ва ўсім гэтым не было. І раптам...

Падбягае нейкі вайсковец і з вельмі ветлівымі інтанацыямі надзейна і адчувальна бярэ мяне за локаць. Настойліва тлумачыць, што мне трэба з ім выйсці, што яны забыліся зрабіць нейкі запіс пра мяне і маю асобу. Ну, трэба — дык трэба. Можа, па іх правілах журналісцкія пасведчанні трэба адсканіраваць з-за рэжыму асобай сакрэтнасці аб'екта — хто ведае...

Выходзім. Вайсковец адводзіць мяне за вугал, а сам усё паглядвае на калідор, па якім камандуючы пойдзе да журналістаў. І тут я разумею, што адбываецца нейкая "спецаперацыя", каб схаваць мяне ад вачэй камандуючага. Гэта мне ўжо зусім не спадабалася.

Для пачатку прашу, каб афіцэр прадставіўся. Ён, крыху павагаўшыся, сказаў, што завуць яго Андрэй Шапяцько і што ён з'яўляецца намеснікам начальніка ўпраўлення ідэалагічнай працы.

— Што адбываецца, спадар Шапяцько?

Тут ужо побач з намі з'явіўся Сяргей Кабаковіч, кіраўнік прэсслужбы ўнутраных войск. Свае пытанні адразу адрасую яму:

— Што гэта за гулі? Я журналіст, чаму мяне не пускаюць на мерапрыемства для журналістаў? Чаму спачатку дазволілі прысутнічаць, а потым раптам перадумалі? Чаму праз сайт МУС паведамілі аб прэс-канферэнцыі, а цяпер пад рукі вывелі?

У адказ са мной па-ранейшаму ветліва пачалі гуляць у дэмагогію і балбатню.

Маўляў, гэта ніякая не прэс-канферэнцыя, а сустрэча камандуючага з журналістамі.

Дык я і ёсць журналіст.

Таму ўдакладняю: "Афіцыйна паведамілі пра прэс-канферэнцыю. Але нават калі гэта сустрэча... З якімі журналістамі? Вы разумееце, што гэта не асабістая сустрэча Гайдукевіча з асобамі, якія яму падабаюцца. Гэта афіцыйнае мерапрыемства. Адмаўляючы адным журналістам і запрашаючы іншых, вы парушаеце заканадаўства".

Адказаць прэс-сакратару не было чаго. Як апошні аргумент ён паказаў мне спіс журналістаў, дапушчаных на сустрэчу, сярод якіх аказаўся і журналіст недзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелаПАН. "Вось, мы розных людзей запрашалі. Але персанальна тых, каго хацелі".

Дзіўныя зносіны з прэсай. Нібы хоць па нейкім беларускім законе дазволена выбіраць журналістаў так, як падбіраюць дамашнюю абслугу: толькі тых, хто падабаецца, хто задае правільныя пытанні, хто нічога дрэннага не напіша... Нібы я прарываюся да Гайдукевіча ў кватэру па асабістым пытанні...

Слізкасць сітуацыі, мне падалося, адчуваў і Сяргей Кабаковіч. Гэта ж увогуле сорам: камандуючы ўнутранымі войскамі спалохаўся жанчыны! Баявы генерал — і схаваўся за спіны падначаленых...

"А што гэта за парадкі такія, калі камандуючаму нельга задаць пару-тройку пытанняў? Што ў гэтым супрацьзаконнага? Але біцца я з вамі не буду: не атрымалася — дык не атрымалася", — сказала я і павярнулася, каб сысці.

Сяргей Кабаковіч адразу выцягнуў паперку: "А вы ў мяне запытайцеся. Я сам адкажу на ўсе вашы пытанні". І для нагляднасці нават запісаў на сваім лісточку ў стоўбік нумаркі...

"Вось калі станеш камандуючым — тады і пагаворым", — падумала я, але сказаць ужо нічога не паспела, бо прэс-сакратар раптам, нібы па нейкай незаўважанай мной камандзе, хуценька пакрочыў у бок канферэнц-залы. Толькі я паспрабавала пайсці за ім, як Андрэй Шапяцько, высунуўшыся з-за кута, у якім мы стаялі, вінавата папярэдзіў: "Пачакайце, калі ласка. А потым мы вам і куртачку прынясём".

Карацей спецаперацыя ўдалася: камандуючага правялі на сустрэчу з журналістамі, не дазволіўшы яму сустрэцца з прадстаўніком "Народнай Волі". Потым хуценька і маю куртку даставілі.

Але чаго ж яны так усе перапалохаліся? Калі так усё ў іх добра, калі ім ёсць што сказаць грамадскасці, калі ёсць што адказаць на пытанні, то навошта былі ўсе гэтыя гульні-хованкі?..

Паведамляю чытачам, якія пытанні я хацела задаць генералу Валерыю Гайдукевічу.

**Першае.** Мінуў год пасля прэзідэнцкіх выбараў. Падчас разгону акцыі пратэсту былі пакалечаны людзі, якія не мелі зброі і не аказвалі міліцыі супраціву. Маі Абромчык зламалі ногі, шмат хто атрымаў пераломы рук, носу, рваныя раны ад udараў дубінкамі, іншыя сур'ёзныя траўмы... Ці ёсць мяжа прымянення міліцыянерамі сілы супраць мірных грамадзян, і якая яна — гэтая мяжа? Па якім законе, па якіх інструкцыях дазволена калечыць людзей, якія не аказваюць супраціўлення?

**Другое.** Удзельнікі акцый пратэсту не раз адзначалі, што байцы, якіх задзейнічаюць для разгону, нібы нечым адурманены. Што ў іх пустыя вочы, што яны проста не разбіраюць, дзе жанчыны, дзе старыя, дзе дзеці... Чым дасягаецца такі эфект? Нейкай спецыяльнай псіхалагічнай накачкай, спецыяльнымі фармацэўтычнымі сродкамі? Якімі словамі вы інструктуеце байцоў, перш чым паслаць іх супраць мірных людзей, сярод якіх могуць аказацца іх родныя, суседзі, сябры, былыя аднакласнікі?

**Трэцяе.** У свой час усіх абурыў выпадак, калі баец спецназу ўдарыў кулаком у твар жонку зніклага журналіста Дзмітрыя Завадскага — Святлану. "Героем" быў не прадстаўнік унутраных войск. Але калі б такімі дзеяннямі адзначыўся падначалены Валерыя Гайдукевіча, то якім бы быў ягоны далейшы прафесійны лёс? Як такія ўчынкі суадносяцца з гонарам афіцэра, гонарам мужчыны?

Адказы на гэтыя пытанні "Народная Воля" ўсё ж такі спадзяецца ад Валерыя Гайдукевіча атрымаць.

**Любоў ЛУНЁВА.**

### ТЫМ ЧАСАМ

*Як паведамілі інфармацыйныя агенцтвы, на апошняй прэс-канферэнцыі камандуючы ўнутранымі войскамі паведаміў пра трыумфальныя поспехі ва ўмацаванні матэрыяльнай базы. Праўда, невядома ці моцна абрадаваўся народ інфармацыі аб тым, што на ўзбраенне спецназу паступілі ручныя электрашокеры, пластыкавыя шчыты з усталяванымі туды электрашокерамі беларускай вытворчасці і нямецкія 9-міліметровыя пісталеты Sig-Sauer. Пісталеты паступілі нядаўна — з паўгода таму, а шчыты ўжо год як маюцца на ўзбраенні.*

ПЫТАННІ БЕЗ АДКАЗАЎ

## Чаму Валянціна Каралёва праігнаравала пытанні «Народнай Волі»?

*14 сакавіка на сайце БЕЛТА прайшла анлайн-канферэнцыя "Усё пра пенсіі". На пытанні наведвальнікаў сайта адказвалі супрацоўнікі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны на чале з намеснікам міністра Валянцінай Каралёвай.*

*"Народная Воля" вырашыла скарыстацца магчымасцю задаць некалькі пытанняў чыноўнікам.*

У Валянціны Каралёвай мы запыталіся:

**— Які сёння памер сярэдняй працоўнай пенсіі па ўзросце ў Расіі, Украіне, Польшчы? Як Беларусь па гэтым паказчыку выглядае на фоне іншых краін СНД?**

**— Які памер пенсій у Беларусі плануецца да канца 2012 года?**

**— Ці дастаткова сёння сродкаў у Фондзе сацыяльнай абароны? У даследаванні Сусветнага банка адзначаецца, што ў Фонду сацыяльнай абароны ўжо ў 2014 годзе будзе назірацца дэфіцыт сродкаў і гэта можа азначаць складанасці з выплатай пенсій і сацыяльных дапамог на дзяцей.**

**— Якіх змен у пенсіённым заканадаўстве нам варта чакаць у бліжэйшы час?**



На жаль, на сайце БЕЛТА сваіх пытанняў з адказамі Валянціны Каралёвай мы не ўбачылі.

Магчыма, намеснік міністра проста не паспела задаволіць усіх жадаючых, бо пытанняў было шмат. Што, безумоўна, не дзіўна для краіны, у якой кожны чацвёрты жыхар пенсіённага ўзросту.

Але ўсё ж такі мы спадзяёмся, што атрымаем з Міністэрства працы і сацыяльнай абароны адказы на нашы пытанні, якія абавязкова давядзём да чытачоў "Народнай Волі".

АФІЦЫЙНА

## Да канца бягучага года пенсіі павялічацца яшчэ на 4,7—4,9 працэнта

*Падчас анлайн-канферэнцыі было шмат пытанняў, якія хвалююць многіх пенсіянераў. Вось некаторыя з іх, на якія адказалі ўдзельнікі канферэнцыі.*

**— Ці зменіцца выплата пенсій працуючым пенсіянерам?**

— Пытанне выплаты пенсій у перыяд работы застаецца прадметам вострых дыскусій. Аднак незалежна ад адрозненняў і суб'ектыўнасці меркаванняў грамадзян пенсія па сваёй сацыяльнай прыродзе з'яўляецца кампенсацыяй страчанага заробку (даходу) у сувязі з непрацаздольнасцю (старасць, інваліднасць) або стратай карміцеля. Таму абгрунтавана ў перыяд работы пенсія не павінна выплачвацца ў поўным аб'ёме. У цяперашні час у перыяд работы пенсія выплачваецца з нязначнымі абмежаваннямі. Абмежаванні на выплату пенсій у перыяд работы захаваюцца і ў далейшым.

**— Якія змены рыхтуюцца ў дачыненні да пенсіі дзяржслужачых? Ходзяць розныя чуткі...**

— У бліжэйшы час змена заканадаўства ў частцы пенсіённага забеспячэння дзяржаўных служачых не плануецца.

**— Колькі беларускіх пенсіянераў працягваюць працоўную дзейнасць? Ці зацікаўлена дзяржава ў працуючых пенсіянерах?**

— У рэспубліцы працягваюць працаваць больш за паўмільёна пенсіянераў. Іншымі словамі — іх пятая частка. Любая дзяржава зацікаўлена ў тым, каб яе грамадзяне працавалі, калі не страцілі працаздольнасць.

**— Колькі пенсіянераў прыпадае на 1000 працуючых беларусаў? Як змяняўся гэты паказчык у апошнія гады і што будзе ў перспектыве?**

— У 2011 годзе на тысячу работнікаў прыпадала 570 пенсіянераў. У перспектыве нагрузка будзе павялічвацца.

**— Ці плануецца зраўнаваць узрост выхаду на пенсію для мужчын і жанчын? Якая ваша асабістая пазіцыя па гэтым пытанні?**

— Адносна павышэння пенсіённага ўзросту ні для жанчын, ні для мужчын рашэнне ў краіне не прынята. Што тычыцца маёй асабістай пазіцыі, магу сказаць, што я не адмаўляю падыходы па зраўнаванні ўзросту выхаду на пенсію для абодвух полаў.

**— Адкажыце, калі ласка, ці будзе павялічаны пенсіённы ўзрост у бліжэйшы час?**

— Не будзе.

**— Як, па прагнозах, зменіцца рэальны памер пенсіі ў 2012 годзе?**

— Рэальны памер пенсіі па ўзросце ў бягучым годзе, як плануецца, павялічыцца на 4,7—4,9 працэнта.

**— Якая катэгарыяльная структура атрымальнікаў пенсій па яе памеры? У каго пенсіі самыя высокія, у каго — самыя нізкія?**

— Памер працоўнай пенсіі залежыць ад стажу і заробку да яе прызначэння. Таму найбольш высокія пенсіі атрымліваюць тыя, хто мае максімальныя паказчыкі стажу (45/40 гадоў для мужчын і жанчын) і мінулага заробку (індывідуальны каэфіцыент заробку 4,0 і вышэй), а самыя нізкія пенсіі — сацыяльныя, калі атрымальнік не мае працоўнага стажу з выплатай абавязковых страхавых узносаў (напрыклад, для пенсій па ўзросце — гэта не менш за 5 гадоў выплаты страхавых узносаў).

**— Ці можна пенсіянеру змяніць спосаб дастаўкі яму пенсіі? Што для гэтага трэба зрабіць?**

— Заканадаўствам прадугледжаны тры спосабы выплаты пенсій: праз арганізацыі паштовай сувязі, банкі, арганізацыі, якія ажыццяўляюць дзейнасць па дастаўцы пенсій. Выбар спосабу вызначаецца самім пенсіянерам. Такім чынам, вы маеце права выбраць адзін з прымальных для вас спосабаў выплаты пенсій, звярнуўшыся ва ўпраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне па месцы жыхарства.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ...

## *Спадар Жарко, ці ж магу я вам верыць?*

— Лякарствы падаражэюць, але нязначна, — запэўніваў мінулым летам міністр аховы здароўя В.Жарко. Сказаў, што хвалявацца не трэба, што "мы ўсё прадумалі і падлічылі".

Міністэрская хлусня відавочная. Адзін толькі прыклад. Пазваніў я ў аптэку і спытаў пра "Квінакс" — каплі для вачэй. Мяне агарошылі: яны цяпер каштуюць 58 тысяч 500 рублёў за "пузырок". Да дэвальвацыі з інфляцыяй каштавалі крыху больш за 8 тысяч. Не так даўно можна было набыць за 20 тысяч. А цяпер — ажно 58 тысяч.

Гэта называецца "лякарствы падаражэюць, але нязначна"? У 7,5 раза, Васіль Іванавіч!

А ці можаце Вы, ахоўнік нашага здароўя, знайсці ў аптэках лякарствы, якія не падаражэлі б у 2—3—4—5 і больш разоў?

Не, не веру я Вам больш, спадар Жарко!

## *Хлуслівая статыстыка*

Нядаўна Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў даныя, што рэальны памер пенсій за мінулы год паменшыўся... на 23 працэнты. Падкрэслена, што гэта з улікам змянення індэкса спажывецкіх цэн на тавары і паслугі. Не ведаю, які той "індэкс" у статыстыкаў, а ў мяне, як і ва ўсіх грамадзян краіны, ёсць свая, самая рэальная мерка.

Кіраўніцтва Беларусі давяло нас за год да дзвюх дэвальвацый. У выніку кошт долара вырас з 3000 да 8650 рублёў (сёння больш за 8000). Амаль у тры разы павячыліся і ўсе цэны.

Сярэдняя пенсія на пачатак мінулага года была ў пенсіянераў па ўзросце 614.000 рублёў. Камітэт паведаміў, што ў снежні яна склала 974.000. А каб ёй дацягнуцца да рэальнай пакупніцкай здольнасці, 614 тысячам трэба было вырасці таксама ў тры разы — хаця б да 1.800.000 рублёў. Значыць, змяншэнне з гэтай сумы склала прыкладна 800.000. Хіба гэта 23 працэнты?

Тым больш што 614 тысяч раўняліся 200 доларам, а 974 тысячы толькі крыху перавышаюць 100 долараў. Цікава, якія маніпуляцыі прывялі ўсяго да 23 працэнтаў?

І што значыць "рэальны памер"? Для мяне, як, відаць, і для ўсіх, ён так выглядае. Калі перад развалам Савецкага Саюза за 120 рублёў сярэдняй пенсіі можна было купіць 60 кілаграмаў свініны, то ў мінулым снежні за тыя ж 974 тысячы рублёў я меў магчымасць набыць яе толькі 25 кілаграмаў.

Я не ведаю тых, хто верыць афіцыйнай статыстыцы. Я лічу яе падманнай, хлуслівай.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ, пенсіянер.**

*Мінск.*

СУМНА

## *Рост, які не радуе*

Па звестках нашага Слуцкага РАУС, у мінулым годзе на тэрыторыі горада і раёна па лініі крымінальнага вышуку было зафіксавана аж 981 злачынства, у іх ліку 737 крадзяжоў ва ўсіх формах уласнасці, у першую чаргу маёмасці (75,1 працэнта). З іх больш за чвэрць (195) здзейснены з пранікненнем у жыллё грамадзян. Зарэгістраваны тры факты разбойнага нападу. У параўнанні з папярэднім годам з 28 да 34 вырасла колькасць выпадкаў рабаўніцтва...

На жаль, раскрывальнасць злачынстваў па-ранейшаму невысокая — 50,2 працэнта.

Адна з прычын росту злачынстваў — алкагалізм ва ўсіх яго праявах. Летась супрацоўнікамі РАУС было выяўлена і знішчана 30 самагонных апаратаў, каля 500 літраў самагонкі, 4,5 тоны самагоннай брагі, 1720 літраў спірту і іншых фальсіфікаваных спіртовых напояў. Толькі ў лістападзе мінулага года было зарэгістравана 17 выпадкаў гібелі людзей ад атручвання напоямі нефабрычнага вырабу. На працягу года ў раёне адбылося 18 самазабойстваў.

**Алесь КАРНІЦКІ, жыхар г.Слуцка.**

ЭВРИКА!

## *И на проклятущих крыс найдется управа*

С леденящим ужасом читал в вашей газете за 24 февраля о чудовищном факте — нападении крыс на детей. И не где-нибудь в глуши, а в крупном областном центре — Могилеве. Это меня сильно взволновало. Разве можно такое допускать? Немалые деньги идут на борьбу с грызунами, а от всякой химии не столько пользы, сколько вреда.

Но выход, по-моему, есть: на помощь человеку могут прийти... совы. От них крысам спасенья нет!

Узнал недавно из одной московской газеты: в большом парке российской столицы провели массовую акцию по установке домиков для пернатых борцов с грызунами: каждая птица уничтожает их до десятка в день! Надо только все продумать и анализировать как следует, "обустроить" ночных охотников — и природа возьмет свое.

Конечно, здесь должны постараться и широкая общественность, и специалисты-орнитологи, и, конечно же, местные власти. Это совсем не мелочь, а проверенный практикой эффективный метод. Почему бы полезный опыт москвичей нам, белорусам, не взять на вооружение?

**Юрий МЯЛИК, житель г.Речица.**

РЭХА

# Скажы мне, хто твой сябра, і я скажу, хто ты...

Па-мойму, больш мудрай прымаўкі на гэты конт не згадаеш. Вельмі цікавае пытанне задала паважаная журналістка Марына Коктыш вядомым у нашай краіне людзям ("Народная Воля" №№39—40). Яно гучыць так: *"Каму з беларускіх герояў вы б паставілі помнік, а чый адвезлі б на сметнік гісторыі?"*

Маюць рацыю палітык **Вінцук Вячорка,** гісторык **Наталля Сліж,** сакратар Цэнтра падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятыў **Сяржук Бахун.** Яны называюць славутых герояў айчыннай гісторыі, якіх варта ўвекавечыць: Кастуся Каліноўскага, Вітаўта Вялікага, Яна Караля Хадкевіча, заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Прапановы вядомай маладзёжнай актывісткі **Насты Палажанка** і паэта **Славаміра Адамовіча** таксама вельмі слушныя, бо яны самі шчырыя патрыёты Бацькаўшчыны і бачаць нашу будучыню з такімі героямі ў душы і сэрцы, якія ўсімі сіламі служылі Беларусі і складаюць яе гонар. А тых, хто душыў нашу Радзіму, трэба здаць на сметнік гісторыі.

Але выказванні гісторыка-этнолага і культуролага, старшыні Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антона Астаповіча, а таксама галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская думка" Вадзіма Гігіна, вядомага скульптара Уладзіміра Слабодчыкава мяне расчаравалі: не адчуваю іх цвёрдай грамадзянскай пазіцыі. Падобна, хочуць спадабацца аднолькава і "маням" і "ваням", каб толькі ніхто не пакрыўдзіўся. А спадару Слабодчыкаву выкажу такое меркаванне: помнік італьянцу Мусаліні ў Італіі зусім не апраўданне шматлікім Леніным у Беларусі. Сёння, у XXI стагоддзі, калі мы ўжо ведаем праўду аб "правадыру сусветнага пралетарыяту", што распачаў ствараць з былой царскай імперыі яшчэ больш жудасную і крывавую камуністычную, помнікам Ільічу не месца на нашай зямлі. А спадару Астаповічу, які таксама за Ленінаў, я пажадаў бы з такім жа імпэтам абараняць ад згубы Курапаты — самы трагічны помнік на тэрыторыі нашай краіны, а можа, і ва ўсім свеце. Гэта крывавая рана Беларусі, свяшчэнная мясціна для ўсіх сумленных людзей. Яна павінна застацца месцам пакланення памяці бязвінных ахвяр камуністычнага рэжыму, папярэджаннем і патрабаваннем — ніколі больш не дапусціць падобнай трагедыі. Але высілкі нашай грамадскасці дзеля гэтага пакуль што, мякка кажучы, недастатковыя...

Што тычыцца прапаноў наконт увекавечання памяці **П.Машэрава,** то скажу: Пётр Міронавіч у свой час быў не горшым з кіраўнікоў Беларускай ССР, але з'яўляўся (і не мог не з'яўляцца) такім жа, як і яго папярэднікі і наступнікі, прадуктам савецка-камуністычнай ідэалогіі і ўсёй заганнай, асуджанай гісторыяй сістэмы. Так што на помнікі, лічу, ён не цягне.

Між тым у нас ёсць, ёсць кім ганарыцца — і ў мінулым, і ў сучасным, аб чым, на шчасце, піша штодня "Народная Воля". Я веру: прыйдзе час — і велічныя постаці лепшых сыноў Бацькаўшчыны, увасобленыя ў бронзе і мармуры, узнімуцца на плошчах і вуліцах нашых гарадоў як узор адданасці Радзіме, урок высакароднасці і мужнасці душы. Хай ім будзе вечная слава!

**З павагай —**

**Мікола КАНАХОВІЧ, ветэран Узброеных сіл.**

*г.Пружаны.*

ДЗЯКУЙ!

## *Беларусам сапраўды ёсць кім ганарыцца*

Паважаная Лідзія Савік!

Вялікі Вам дзякуй за Ваш артыкул "Што, беларусам няма кім ганарыцца?", які быў змешчаны ў газеце "Народная Воля" ад 28 лютага.

Так, колькі знакамітых людзей нарадзіла наша зямля! Тыя героі, пра якіх Вы напісалі, — гэта толькі жменька духоўнага скарбу, талентаў, сапраўдных патрыётаў Беларусі. А колькі іх за межамі краіны? Ваш артыкул расплюшчвае вочы нашай моладзі і з'яўляецца вельмі каштоўным у яе выхаванні.

Яшчэ раз дзякую Вам і жадаю здароўя, поспехаў у Вашай працы на карысць нашай Радзімы.

**Ядвіга Іосіфаўна ГІРКО.**

*Мінск.*

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# В названии банка — ошибка




В 1995 году указом президента Республики Беларусь было образовано открытое акционерное общество "Сберегательный банк "Беларусбанк" (краткое название — ОАО "АСБ "Беларусбанк").

В соответствии с действующим законодательством, государственную регистрацию банков осуществляет Национальный банк, контроль за ее проведением и внесение в Реестр зарегистрированных юридических лиц — Министерство юстиции. При регистрации наименование юридического лица должно указываться на белорусском и русском языках.

Зарегистрированное наименование банка (в частности, его спецназвание "Беларусбанк") не соответствует требованиям законодательства:

— если слово "беларус" обозначает национальность на белорусском языке, то на русском это будет "белорус";

— если это сокращение слова "беларускі", то на русском это опять-таки "белорус" (пример правильного спецназвания: "Беларуснафта", "Белорусьнефть");

— остается последний (наиболее вероятный) вариант: "Беларус" — это незаконное сокращение краткого названия страны ("Беларусь").

Закон от 19.09.1991 г. №1085-XII обязывает в сокращенных и составных названиях страну называть "Беларусь" (на белорусском и русском языках одинаково). Примеры правильного применения краткого названия страны: "Беларусьфільм", "Беларуськалий", "Беларусьторг".

В любом случае в Указ №340 необходимо внести одно из следующих изменений:

— изменить спецназвание на "Беларусьбанк";

— изменить спецназвание на "Белорусбанк", так как текст Указа на русском языке.

Соответствующие изменения должны быть внесены Национальным банком в документацию по регистрации и Министерством юстиции в Реестр.

На мои неоднократные обращения в Министерство юстиции, Национальный банк, Администрацию президента получены отписки, из которых следует, что у этих организаций нет желания исправлять свои ошибки.

И еще одна несуразность, допущенная в названии банка: в кратком названии банка в аббревиатуре "АСБ" первая буква лишняя (очевидно, это сокращение слова "акционерный", которого в полном названии в этом месте нет).

Трудно объяснить это безобразие в особо крупном размере (название банка присутствует на бланках писем, в документации, на вывесках, в рекламе и т.п. по всей стране в течение 16 лет): то ли чиновники республиканского уровня плохо учились в школе, то ли никто не напоминал им о необходимости уважать законодательство, то ли это следствие халатности.

Может быть, после этой публикации лед тронется?

**Леонид Степанович ШАРОЙКО, житель Минска.**

ХОЧУ СКАЗАТЬ...

## *При нынешних ценах и 500 долларов — мало!*

Выступая на коллегии Министерства здравоохранения, А.Тозик предложил брать по 5 тысяч рублей за посещение поликлиники. Я с этим принципиально не согласен. Если человек здоров, он не идет в поликлинику. Туда ходят больные, многие из которых нуждаются в частом посещении врача. А очереди в поликлиниках — это дефицит докторов, нехватка среднего персонала. Надо больше строить больниц, а не ледовых дворцов, которые наполовину пустуют. В ст.45 Конституции Беларуси записано, что гражданам гарантируется бесплатное лечение в государственных учреждениях. Пора об этом заместителю премьер-министра А.Тозику знать.

Или другой вопрос. С 24 февраля повысили на 20 процентов тарифы на телефонные переговоры с Россией и некоторыми странами СНГ. РУП "Белтелеком" этого показалось мало. Отменили льготные тарифы не только в рабочие дни, но и в выходные и праздничные, перенесли льготное время с 23 до 6 утра. Здорово получилось! Хотя бы пенсионерам скидку сделали! Ведь такие тарифы, по сути, лишили нас "льготных" разговоров, сейчас даже с Европой разница во времени составляет 2 часа. Выходит, общаться с родными надо ночью! Потому что за полную стоимость такие разговоры многим не по карману, не говоря о пенсионерах.

А.Г.Лукашенко кормит нас обещаниями, что к концу 2012 года зарплаты в стране опять будут 500 долларов. Хотелось бы ему напомнить, что в России средняя зарплата уже сегодня 900 долларов, в Казахстане — 700, в Польше — 1300 долларов. А цены по многим позициям практически такие же. Государство "позаботилось": цены на продукты питания в Беларуси сравнялись с российскими. А почему тогда зарплаты сегодня как минимум в два раза ниже, чем в России? Ведь при нынешних ценах и 500 долларов — это мало.

**Анатолий ГОЛУБЕВ.**

*г.Борисов.*

ИЗ ПИСЬМА

## *...Чтобы не водили собак выгуливать на ваши могилы*

Любой человек, находясь у власти длительное время, обрастает друзьями, сослуживцами, родственниками, льстецами, проходимцами. Они могут называться "командой", "Администрацией президента", "БРСМ" и т.д. Название значения не имеет. Они будут работать на хозяина, он гарант их благополучия! Они пойдут на нарушение закона, на преступление, чтобы не потерять кормушку, остаться при власти. Зачем открывать свое дело, рисковать, вкалывать? Проще быть слугой хозяина.

Вот почему нужна смена власти.

Короли, цари приходят и уходят, а народ остается. Ни тюрьмы, ни репрессии, ни даже смерть лучших сыновей не остановят народ в его стремлении к правде и справедливости. Так было, есть и будет.

Дорогие президенты! Задумайтесь над этими словами. Поступайте так, чтобы вас после смерти не проклинали, не водили собак выгуливать на ваши могилы.

С уважением к читателям "Народной Воли" —

**Евгения Павловна ДОГИЛЕВА.**

*Минск.*

СЛОВО ИЗ ПРОВИНЦИИ

## А где же людям работать?

Если говорить об экономике, то все, наверное, накроется медным тазом и очень скоро. У нас в Речице закрыты уже при этой власти гидролизный завод, ОАО "Ритм", ОАО "Речицкая керамика", консервный комбинат, птицефабрика, комбинат строительных материалов. В стадии ликвидации находится судостроительный завод.

Легендарный пивзавод после прихода новых инвесторов дышит на ладан, пиво "Речицкое" в Речицу завозят из Бобруйска! Нонсенс.

То же самое и с молокозаводом. От него остался один маленький цех. В основном молоко завозят в город из Гомеля!

Зато наша местная власть гордо рапортует о росте промышленных показателей города и района. Смешно! На одном только гидролизном заводе в советское время работало больше 1000 человек. Все они в 2007—2011 годах оказались на улице.

А что творится в маленьких городках, таких как Брагин, Лоев и прочие?! Ужас! В Брагине закрыты маслосырзавод, винзавод и даже хлебозавод. Хлеб везут из Василевичей или Хойников.

Езжу по стране много и знаю: подобное творится и в других регионах. Вопрос трудоустройства людей стоит очень остро. Постоянно говорят о какой-то уже достигнутой в этом году средней зарплате в 340 долларов. У меня из десяти знакомых только один такую зарплату имеет, если не считать нефтяников, но там другая жизнь, не для простых смертных.

**Юрий ДАВЫДОВСКИЙ.**

*Речица.*

ИЗ СВЕЖЕЙ ПОЧТЫ

# Несолоно хлебавши

Послала меня жена в магазин за солью. Пришел в универсам "Сухаревский", нашел нужную секцию, смотрю: цена соли 9250, 9850 рублей за килограмм. Спросил у продавца: не ошибка ли это? "Нет, — ответила продавщица, — не ошибка".

Вернулся домой без соли, объяснил жене, почему не купил соли.

— Ты, дед, спятил, что-то напутал, — говорит она, — такого никогда, нигде, ни при какой власти не было, чтобы соль была дороже сахара. В былые времена соль всегда была раз в десять дешевле сахара.

И вдруг ее что-то осенило:

— Может, это преддверие к тому, чтобы найти причину повысить цену на сахар раз в десять, чтобы было нормальное соотношение цены соли к цене сахара, как это было раньше? Ведь совсем недавно было, что какое-то лекарство вот так сразу подорожало почти в десять раз. Такое может произойти и с сахаром, — задумалась она и добавила: — Пойди-ка, дед, купи упаковочку сахара, уже пора чему-то научиться, а с солью я сама разберусь.

Хотелось бы спросить у Михаила Мясниковича, или Николая Ладутько, или еще у кого-нибудь из правителей: почему такое происходит в нашей стране?

**Александр Эдуардович ВАРАКСА, пенсионер, житель Минска.**



* УП Универсам Сухаревский *
* Минск ул.Лобанка 107 *
* Приглашаем к сотрудничеству *
* фермерские хозяйства тел.313-93-57 *

ДОК.N:2.3.2144.92
12/03/12 13:55 Чек 2144.00075
КАССИР Повидайло КАС: 3
ПРОДАЖА

| | | | |
|---|---|---|---|
| Простокваша тбс | 1 | 4,150 | 4,150 |
| Хлеб "Спачны об | 1 | 3,050 | 3,050 |
| Соль "Морячка" | 1 | 9,850 | 9,850 |
| Багет "Еврогейс | 1 | 3,700 | 3,700 |

ИТОГО РУБ: 20,750
ПОЛУЧЕНО НАЛИЧ. РУБ: 20,750
СПАСИБО ЗА ПОКУПКУ!

12-03-2012 13:56
ФИСКАЛЬНЫЙ ДОКУМЕНТ N:1104691 #VHYZQ
ЗАВОДСКОЙ N:6427501938
РЕГИСТРАЦИОННЫЙ N:642751938
УНП ВЛАДЕЛЬЦА ККМ:101541324
ИТОГО:20750.00Ф_РБ

ПОЗИЦИЯ

# Я не хочу, чтобы мои дети и внуки были подданными новой Российской империи

*С большим интересом прочел в "Народной Воле" публикации доктора философских наук, профессора Вячеслава Оргиша "Интеграция или все же инкорпорация?". Думаю, что его мысли об угрозе, которая нависла над суверенитетом Беларуси, вызывают определенную тревогу у всех здравомыслящих граждан нашей страны. Да, нужна стратегическая программа для всей политической элиты Беларуси — как стоящей во власти, так и для оппозиционной.*

Таможенный союз необходим, но он должен развиваться на принципах равноправия, не посягая на независимость союзных государств.

Но беда в том, что за время, прошедшее после развала Советского Союза, в России не изжито имперское мышление, и прежде всего его носителями является политическое руководство. Лидеры России мечтают о возрождении Российской империи хотя бы в пределах (как когда-то предлагал А.И.Солженицын) России, Украины, Беларуси и Казахстана. В последние годы эти грезы стали особенно заметны в отношении нашей Беларуси, где не без помощи "старшего брата" национальное самосознание народа размыто до предела.

Почувствовали мы и экономическую блокаду. Все помнят "газовые" и "нефтяные" войны. Под прессингом белорусское руководство вынуждено было пойти на продажу газопровода и некоторых производств. Российские олигархи зарятся на стратегические объекты нашей страны.

В.Оргиш приводит многочисленные примеры, как российские великодержавцы, пользуясь вхождением Беларуси в Таможенный союз, могут лишить нас суверенитета, сделать людьми второго сорта.

Хотелось бы, чтобы политики, экономисты, руководство страны изучили публикации вышеназванного автора и сделали выводы, как не погубить Республику Беларусь в это сложное время.

Мне, простому человеку, в конце своей жизни не хочется, чтобы мои дети, внуки и правнуки были подданными новой Российской империи...

И еще. Я боюсь, что наши чиновники из высшего руководства при удобном случае, попросту говоря, продадут свой народ и побегут в Кремль просить доходные места уже в "Северо-Западном крае" Российской империи. Разве только А.Лукашенко не захочет менять президентство на губернаторство. Может, это и будет спасением Беларуси как государства.

А чтобы чего-то страшного не случилось, необходимо всеми методами пробуждать в народных массах национальное самосознание, национальную гордость. В первую очередь нужно сделать белорусский язык национальным, не запрещая и русский. Дети должны обучаться белорусскому языку с первых лет жизни.

Если редакция соизволит опубликовать мои мысли, то прошу читателей не считать меня ярым шовинистом, который ненавидит другие народы. Я люблю россиян, украинцев и другие народы, но хочу, чтобы Беларусь была Беларусью, интегрировалась с Россией, но не слилась с ней.

**Аким СТАРОХАТНИЙ, житель Гродно.**

